

# ВОСЕМНАЦЦАТАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ВКП(б)

У лютым месяцы гэтага года ў Маскве адбылася восемнаццатая канферэнцыя Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў).

На канферэнцыю з усіх рэспублік і абласцей Совецкага Саюза з'ехаліся лепшыя партыйныя, совецкія і гаспадарчыя работнікі. Сумесна з вялікім Сталіным, любімымі кіраўнікамі партыі і ўрада абмеркавалі яны самыя галоўныя пытанні для нашай краіны і прынялі вельмі важныя рашэнні, як трэба далей працаваць.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) таварыш Маленкоў зрабіў на канферэнцыі даклад аб задачах партыйных арганізацый у галіне прамысловасці і транспарта. Ён сказаў, што нашы фабрыкі, заводы павінны працаваць яшчэ лепш. Яны павінны вырабляць больш станкоў, паравозаў, трактароў, розных тавараў. А нашы чыгункі і параходы павінны хутчэй і лепш перавозіць іх куды патрэбна.

Таварыш Маленкоў расказаў і як дабіцца гэтага. Трэба каб ва ўсёй рабоце было больш парадку, дысцыпліны, арганізаванасці, трэба каб кожны рабочы і служачы працаваў добра, старанна вырабляў больш прадукцыі і высокай якасці.

Канферэнцыя зацвердзіла план развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1941 год. У гэтым годзе ў нашай краіне ўсяго-усяго будзе выраблена на многа больш, чым у мінулым. Будзе пабудована многа новых фабрык, заводаў, чыгунак, школ, жылых будынкаў. Наша радзіма стане яшчэ больш магутнай і багатай. А працоўныя нашай краіны будуць жыць яшчэ больш заможна і культурна.

Так рашыла восемнаццатая канферэнцыя ВКП(б). Так яно і будзе.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Год выдання—трынаццаты
Сакавік—1941 год—№ 3

# Вучань Сосо



*Ф. Канстанцінаў.*

*Рыс. А. Сапетка*

Сосо—так звалі ў дзяцінстве Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Ён быў выключна здольны і працавіты хлопчык.

У школе Сосо вучыўся вельмі добра, лепш за ўсіх вучняў. Ні адзін прадмет для яго не з'яўляўся трудным. Ён аднолькава выдатна паспяваў па мовах і па матэматыцы, па прыродазнаўству і па геаграфіі, па спевах і па музыцы.

За ўвесь час навучання ў школе ў Сосо не было ні адной дрэннай адзнакі. Ён вучыўся толькі на выдатна. З класа ў клас ён пераходзіў заўсёды як самы першы вучань.

Да ўрокаў Сосо рыхтаваўся вельмі старанна. Не гледзячы на свае выключныя здольнасці ён акуратна выконваў усе заданні настаўнікаў, як у класе, так і дома. Не было ні аднаго выпадку, каб ён не выканаў задання.

Адказваць урок настаўніку Сосо быў гатоў у любы час і заўсёды толькі і чакаў, каб яго выклікалі.

На ўроках Сосо ўважліва слухаў тлумачэнні настаўніка. Ён стараўся не прапусціць ні воднага слова выкладчыка, імкнуўся ўсё зразумець.

Звычайна вельмі жвавы, рухавы хлопчык, на ўроках Сосо сядзеў спакойна, цішэй за ўсіх, і ўважліва слухаў тлумачэнні настаўніка. Ён так захапляўся ўрокам, што ні на што пабочнае не звяртаў увагі, і сам ні чым пабочным не займаўся.

Сосо ніколі не прапускаў урокаў і не пазніўся ў школу.

Маці таварыша Сталіна расказвала аб такім выпадку:

— Аднойчы пасля абеда Сосо зрабілася дрэнна. Тэмпература павысілася, і я загадала яму легчы ў пасцель. Ад гарачкі ён пачаў брэдзіць: «Мамачка, адпусці мяне ў школу, а то настаўнік паставіць мне дрэнную адзнаку».

Сосо здзіўляў усіх сваёй выключнай памяццю. Тлумачэнні настаўніка ён засвойваў адразу і з поўнай дакладнасцю. У любы час ён мог пераказаць урок настаўнікам і таварышам.

А дапамагаў ён таварышам вельмі часта і ўмела. З усімі незразумелымі пытаннямі аднакласнікі звярталіся да Сосо.





Ён старанна ім ўсё растлумачваў да пачатку заняткаў ці пасля, але ніколі не падсказваў у часе ўрока. Перад экзаменамі таварыш Сталін спецыяльна заставаўся пасля лекцый у школе і займаўся з адстаючымі вучнямі. Часта цэлыя групы вучняў прыходзілі да яго дадому. Ён ветліва прымаў іх у сябе дома, вельмі зразумела тлумачыў ім усё і, не гледзячы на беднасць сям'і, заўсёды частаваў таварышоў, чым толькі мог.

Таварыш Сталін добра ведаў увесь пройдзены матэрыял і быў цвёрда ўпэўнены ў сваіх ведах. Аднакласнікі яго ў сваіх успамінах расказваюць аб такім выпадку.

Аднойчы настаўнік Ілурыдзе выклікаў Сосо і запытаў:

— Колькі вёрст ад Пецербурга да Пецергофа?

Сосо адказаў правільна. Але настаўнік не згадзіўся з ім. Сосо-ж, не гледзячы на гэта, настайваў на сваім. Настаўнік разазлаваўся, што вучань з ім не згаджаецца,—пачаў пагражаць і патрабаваў, каб Сосо папрасіў у яго прабачэння.

Але Сосо меў грунтоўныя веды і цвёрды, непрымірымы характар. Ён некалькі раз паўтарыў тое-ж самае і заявіў, што ён правы. Яго падтрымалі некаторыя вучні. Гэта яшчэ больш раззлавала настаўніка. Ён пачаў абурацца, крычаць, але Сосо не ўступаў. Іосіф Вісарыёнавіч стаяў нерухома. Вочы яго так і гарэлі ад гневу. Ён так і не адмовіўся ад свайго адказу.

Таварыш Сталін вельмі любіў чытаць. Ён прачытаў многа самых разнастайных кніг. Яшчэ ў школьныя годы ён прачытаў амаль усе кнігі класікаў, якія толькі мог дзе-небудзь дастаць.

А дастаць у той час добрыя кнігі было справай нялёгкай. Пры школе была бібліятэка, але начальства выдавала вучням чытаць толькі такія кнігі, якія яно хацела. А хацела яно, каб вучні трацілі час на чытанне розных рэлігійных кніг, якія-б толькі забівалі галовы дзяцей, прывівалі ім богабаязнь, пакорнасць і страх перад начальствам. Праўда, на Сосо такое «выхаванне» ніколькі не ўплывала. Ён быў і застаўся смелым, жыццерадасным і мужным. А кнігі, паміма школьнай бібліятэкі, ён пачаў браць у Арсена Іванавіча Каландадзе. Каландадзе быў культурны чалавек. І каб пашырыць культуру сярод







населькіцтва, ён трымаў кніжную лаўку ў Горы, а пазней і чытальню арганізаваў.

А трапіў Сосо да Арсена вось як.

Сустрэў Іосіф Вісарыёнавіч аднойчы свайго добрага таварыша Ладо Кецхавелі, у школе, а той і кажа:

— Ты заўсёды скардзішся на адсутнасць кніг?

— Ну, так,—адказаў Сосо.

— Хочаш,—дапамагу дастаць!?

— Як-жа не хацець?! Зразумела хачу,— адказаў Сосо.

— Тады прынось заўтра пяць капеек, а далей—мая справа.

На другі дзень Сосо дастаў пяць капеек, і Ладо адвёў яго да Арсена Каландадзе. Пяць капеек пакінулі пад заклад і атрымалі на дом кнігу грузінскага пісьменніка Данііеля Чанладзе «Сурамская крэпасць».

У гэту ноч Сосо так захапіўся чытаннем, што і пра сон забыў. Было ўжо за поўнач, калі прачнулася маці, а Сосо за кнігай сядзіць.

— Сынок, чаму ты так позна спаць не кладзешся? Кладзіся, адпачні... Бачыш— хутка світаць пачне.

— Ужо вельмі спадабалася мне гэта кніга, мама, ніяк не магу яе пакінуць.

Маці яму не перашкаджала. Змарыўшыся за доўгі дзень цяжкай працы, яна зноў моцна заснула.

А Сосо з таго дня стаў частым госцем у Арсена: прыносіў адну кніжку, браў другую, прачытваў і зноў ішоў да яго.

Так ён прачытаў вельмі многа кніг грузінскіх пісьменнікаў. Захапляўся Сосо і навуковымі кнігамі. Ён чытаў творы Дарвіна, Мендэлеева і іншых славутых вучоных.

Сярод таварышоў Сосо карыстаўся вялікай павагай. Яны шчыра і моцна любілі Сосо. І гэта невыпадкова. Сосо лепш за ўсіх вучыўся, быў першым ва ўсіх гульнях, але ён ніколі не пагарджаў таварышамі, быў самым чулым і шчырым сябрам.

Сосо любіў співаць, захапляўся дзіцячымі гульнямі, пісаў добрыя вершы.

Кожны, хто вучыўся разам з таварышам Сталіным, хто ведаў яго ў той час, імкнуўся быць бліжэй з ім, быць такім як Сосо.

Вы, рэбята, напэўна ўсе жадаеце быць хоць крыху падобнымі да нашага любімага, роднага Сталіна. Дык вось перш за ўсё трэба вучыцца, вучыцца настойліва, упарта, так, як вучыўся Сосо, вучыцца пасталінску.







# Мы любім нашу школу



## Атрымаў пахвальную грамату

*Я вучуся ў другім класе 47-й школы. Вучуся я на «выдатна». На ўроках я заўсёды ўважліва слухаю нашу настаўніцу Лідзію Владзіміраўну. Ні разу яшчэ не было, каб я не вывучыў урокі.*

*У першым класе атрымаў пахвальную грамату. Буду старацца і ў гэтым годзе атрымаць.*

*У вольны час люблю катацца на каньках.*

Барыс Пятроў
9 год, горад Мінск.

## Цяпер і мы вучымся

*Ужо другі год, як Чырвоная Армія аслабаніла Заходнюю Беларусь. Дзеці з вялікай ахвотай пайшлі вучыцца ў школы.*

*У нашым сяле адчынілася няпоўная сярэдняя беларуская школа. Пры школе арганізован піонерскі атрад. Ёсць у нас розныя гурткі. Піонеры з вялікай ахвотай наведваюць зборы звенняў і атрадаў. На гэтых зборах мы чытаем мастацкія творы, слухаем захапляючыя гутаркі, іграем у цікавыя гульні, прывучаемся да карыснай працы.*

Сцяпан Доўбат,
Надзя Судак.
Брэсцкі раён, Сыгоўская
НСШ, 8-ці клас.

## Дапамагаю маме

*Я вучуся ў другім класе, на другой змене.*

*Раніцай я ўстаю, снедаю, а потым рыхтую ўрокі. У вольны час я гуляю з братам Вовачкай. Ён яшчэ ў нас маленькі, у школу не ходзіць. Я яшчэ дапамагаю маме: прыбіраю пакоі, мыю сабе насавыя хустачкі.*

*Вучуся я выдатна.*

*Вовачка сам зрабіў сабе з дошкі вінтоўку,—ён надта хоча быць ваенным. У яго ёсць алавяныя салдацікі. Ён любіць з імі гуляць.*

Валя Ярашэвіч, 9 год,
Горад Мінск, 31 школа.

## Дрэнны хлопчык

*У школе я ўважліва слухаю, што гаворыць настаўніца. Дома акуратна рыхтую ўрокі. І таму ўсе адзнакі ў мяне выдатныя. Вучні нашага класа любяць Елену Паўлаўну і слухаюцца яе. Толькі Вова Шасцітка дрэнны хлопчык. На ўроках ён есць, размаўляе, не выконвае заданні. У яго дрэнныя адзнакі. Калі ён будзе такім далей, дык застанецца на другі год і яму будзе сорамна.*

Тамара Адамчук
Мінск. 31 школа, 2 клас.





# ПЕРСПЕКТЫВА

*М. Цэлеш*

*Рыс. Давідовіча.*

Пачалося гэта вясною. Цвілі дрэвы, шчабяталі птушкі і на зялёных мурожынах выскаквалі жоўтыя дзьмухаўцы.

Вучні здавалі іспыты, пераходзілі з класа ў клас, а некаторыя і зусім расставаліся са школай.

«У гэтым годзе я канчаю сярэднюю школу. Якія прасторы адкрываюцца перада мною! Змалку я марыў стаць інжынерам.

Я буду вучыцца ў тэхналагічным інстытуце і праз пяць год стану інжынерам-хімікам.

Тодар Прус».

«А кім я буду?»—падумаў Лёня Карчук, камкаючы газету, у якой была надрукавана гэта заметка. «Як гэта я раней ніколі не думаў аб гэтым?!»

Праўда, Лёня быў толькі ў пятым класе, але думка «кім быць?» цяпер не пакідала яго.

«Я буду таксама інжынерам. Але толькі не хімікам, а радыстам. Пабудую сабе апарат, праз які буду «лавіць» Амерыку, Кітай, Японію. І буду ведаць, што ва ўсім свеце робіцца!»

Так разважаў пяцікласнік Лёня Карчук. А тым часам разам з трыма «выдатна» і адным «добра», у яго было «пасрэдна» па геаграфіі, «дрэнна»— па арыфметыцы... Трэба было рыхтавацца да пераэкзаменоўкі. Але Лёня ўзяўся будаваць радыёпрыёмнік. «Што каму да таго, ведаю я арыфметыку ці не ведаю! Вось калі зраблю апарат, тады ўсякі скажа: малайчына!»—разважаў Лёня.

Усё лета ён быў заняты гэтай работай. Перастругаў не мала фанеры, перапсаваў шмат дроту і спыніўся ў сваёй будоўлі на тым месцы, дзе трэба было зрабіць дакладны арыфметычны разлік катушкі.

«Не, інжынерам быць цяжка. Галоўнае—усё трэба самому прыдумаць і вылічыць. Не, гэта да мяне не падыходзіць,—рашыў Лёня.—Інжынер павінен многа ведаць. А я не магу вучыцца так доўга як іншыя, бо я—талент! Гэта ўсе гавораць! Мне на ёлцы кожны год падносяць падарункі... Мяне запрашаюць маляваць у насценгазету. Во, я і буду мастаком! Тут не трэба ні гэтай брыдкай матэматыкі, ні геаграфіі, ні геаметрыі... Мерыдыяны, гарызанталі, проценты, квадраты! Навошта яны тут патрэбны?!»

З гэтага часу хлопчык заняўся маляваннем. Пачаліся заняткі ў школе. Лёня з вялікімі цяжкасцямі перайшоў у наступны клас. Але-ж за вучобу ён не ўзяўся.

Ён пачаў маляваць карціну. А калі скончыў сваю работу напісаў пад карцінай «намаляваў Леанід Пятровіч Карчук» і паслаў у саюз мастакоў.

Адказу з саюза ўсё не было. Але і за вучобу Лёня не браўся.

Аднаго разу маці сказала:

— Ты-б, Лёнька, павучыўся крыху! Урокі павучыў...

Лёня ў злосці схапіў шапку, апрануў паліто і накіраваўся да дзвярэй. Але маці, амаль упершыню за ўвесь час, строга сказала:

— Лёня, садзіся і вучы ўрокі, а то я скажу бацьку.

— Што вы ад мяне хочаце?—крыкнуў нездаволена Лёня.

Ён пастаяў крыху на адным месцы, павесіў паліто і шапку і, зачмыхаўшы носам, пайшоў у пакой. За ўрокі, праўда, ён не ўзяўся, але нікуды і не пайшоў. Сядзеў за сталом, схіліўшы галаву на рукі, і плакаў, плакаў моцна, з захліпам. Яму зараз здавалася, што ён самы няшчасны чалавек на свеце.

Маці займалася сваёю справай на кухні. Час ад часу яна падыходзіла да дзвярэй і прыслухоўвалася: што з Лёнькам? Як ёй хацелася, каб ён узяўся за кніжкі! Але Лёня ўсё сядзеў, схіліўшы галаву на рукі, і ўсё плакаў.

Нечакана ў акно пастукаў чалавек у шэрым капялюшы.

Маці выйшла на ганак.

— Тут жыве Карчук?

— Тут. Калі ласка, заходзьце.

— Бачу, вы маці Лёні,—загаварыў чалавек, увайшоўшы ў хату.—Мне з вамі трэба пагаварыць сур'ёзна, па-таварыску... Я настаўнік...

Лёня зараз-жа падняўся, каб выйсці, але настаўнік спыніў яго.

Лёня апусціўся на крэсла і ўтаропіў вочы ў верхнюю шыбу акна, праз якую віднелася голая макаўка топаля. «Яшчэ нядаўна якая зялёная была, а зараз апусцела!..»

— Вось што,—загаварыў настаўнік.—Я наконт вашага сына. Трэба прыняць нейкія меры. У мі-

нулым годзе вучыўся хоць крыху, а зараз зусім перастаў. Учора, напрыклад, пытаюся: «Назаві мне сталіцу Фінляндыі?» Стаіць і маўчыць. Дзеці падсказваюць: «Хельсінкі! Хельсінкі!» А ён гаворыць: «Апельсінкі!»

— Што гэта такое, Лёня?—сказала нездаволеная маці.

— Я малюю! Я хутчэй хачу стаць мастаком, і не буду вучыцца!—адказаў Лёня.

— Для таго, каб стаць мастаком, трэба вучыцца,—заўважыў настаўнік.

— Не буду мастаком, дык буду камандзірам, лётчыкам. Якая розніца? Усе прафесіі аднолькавы, кім-небудзь-жа буду?! У нас дарогі адкрыты...

— Але-ж для таго, каб стаць і камандзірам, і лётчыкам трэба вучыцца,—сказаў настаўнік.

Лёнька нічога не адказаў.

— Ну, што-ж, прыдзецца яго перасадзіць на годзік у пяты клас!—сказаў настаўнік.

— Ну, вось! Хацеў хутчэй, а выйшла наадварот. Што ты гэта сабе думаеш?!—загаварыла з дакорам маці.

Лёнька аж затросся, пачырванеў увесь і на вачах яго заблішчэлі кропелькі слёз. Яму раптам стала так крыўдна, як ніколі. Колькі Лёня жыве на свеце, з ім яшчэ ніхто так не гаварыў. У пяць год ён навучыўся чытаць. У чатыры гады ведаў напамяць «Мыйдадыр». У шэсць год выводзіў на паперы домікі і крутахвостых сабачак. За ўсё гэта яго насілі на руках, ім захапляліся, называлі талентам. Не, ён гэтага не даруе... От ён хутка атрымае адказ з саюзу мастакоў. Там умеюць ацаніць яго работу. Там, безумоўна, будуць дзівіцца. І могуць узяць мяне да сябе... Навошта дарэмна траціць час на школу!? І тады Іван Паўлавіч зразумее, як глыбока ён памыляецца.

Якраз у гэты момант лістаносец прынёс пошту. Лёня ўзяў вялікі жоўты канверт.

— Ну, вось, мама! Гэта з саюзу мастакоў,—сказаў Лёня з радасцю на твары.

Дрыжачымі рукамі ён пачаў распячатваць канверт. Што такое—назад карціну!? Ён выцягнуў з канверта свой малюнак, а разам з ім на падлогу вывалілася пісьмо. Лёня, хвалюючыся, падняў і пачаў чытаць:



«Дарагі Лёня!

Ты хочаш быць мастаком. Гэта вельмі добра. У цябе, відаць, і здольнасці ёсць да мастацтва. Але адных толькі здольнасцей мала. Трэба яшчэ ўменне. Здольнасць і талент патрабуюць доўгай і ўпартай вучобы, апрацоўкі, шліфоўкі. Толькі тады яны раскрыюцца. Для гэтага ты сам ведаеш, што трэба—вучыцца, вучыцца і вучыцца!

Ты-ж пішаш, каб мы цябе ўжо зараз «узялі да сябе ў мастакі». Як-жа можна ўвязаць тваё жаданне стаць мастаком з тваёй просьбай?! Табе трэба яшчэ вучыцца ў школе...

Па твайму малюнку відаць, што ты яшчэ не ведаеш: што такое перспектыва. Запішыся ў гурток, набывай веды і памаленьку малюй! Лепшыя свае работы прысылай да нас на кансультацыю. Вось наша парада».

Пісьмо выпала з рук Лёні. «І яны не зразумелі мяне! Перспектыва! Няўжо нельга без гэтага?!»

Ён доўга сядзеў нерухома, у задуменні. Потым вышаў на кухню, дзе бразгала талеркамі маці, і сказаў:

— Мама, дайце мне лямпу, я буду рыхтаваць урокі.



# Я і я, і я, і я

*Х. Мальцінскі* *Рыс. М. Свяцкага.*

Я не хлус, на ўсё я здатны,
Толькі я адзін выдатнік.

Усё зрабіць магу цяпер,
Я магу раўці, як звер.

Я антэну сам зраблю,
Як сабачка выць люблю.

Я зрабіў званок. Я ўпарты,
Я цвіком пакрэмзаў парты.

Весялей за ўсіх, бадай,
Толькі трошкі я гультай.

Я ўсё чую і ўсё знаю,
Я шумлю, перашкаджаю.





Я-ж і футбаліст выдатны,
Ўсюды я хаджу бясплатна.

Рэкі ўсе пераплываю.
Я манюк не паважаю.

Як скажу што-небудзь,—вер,
Выб'ю шыбу хоць цяпер.

Да ўсяго-ўсяго я здатны.
Толькі я адзін выдатнік.

* * *

Я і я, і я, і я,—
Аб сабе крычыць штодня.

Ад маны такой дзівоснай
Проста робіцца аж млосна.

**Пераклад з яўрэйскай мовы**
**Эдзі Агняцвет**




# МЫ ЧЫ

*С. Пагарэлоўскі*

**Мы па вуліцы гуляем,
Самі
Шыльды ўсе чытаем:
Гэта—„эс“,
А гэта—„ка“,
„Жэ“—падобна да жука.
Вось чатыры знакі:
„Во-ды“.
Вось яшчэ чатыры:
„Моды“.**

**„Воды-моды-ліманад!“
Мы чытаем
Усё падрад.
Вось відаць бялей за снега,
Слова горкае:
„Аптэка“.
З ім салодзенькія ўрад:
„Грушы“.
„Слівы“.
„Вінаград“.**




# ТАЕМ

*Рыс. А. Сапежкі.*

**А насупраць іх**
**Другое**
**Слова цяжкае**
**Такое,**
**Нельга выгаварыць аж,—**
**Гэта слова:**
**„Трыкатаж!“**
**А вунь там:**
**— Як цацак многа!**
**Паглядзець бы іх зайсці.**

**Толькі дзе-б гэта**
**Дарогу**
**Можна была-б перайсці.**

**Вось за гэтымі ларкамі—**
**Там дзе стрэлка ля варот,**
**Мы на стрэлцы гэтай**
**самі**
**Прачыталі:**
**„Пе-ра-ход“.**

Пераклад з рускай мовы.



# Свіны язык

АПАВЯДАННЕ

*Рыс. А. Сапеткі.*

Ёсць у мяне стары дзед. Завуць яго Саўка. Ён вельмі многа ведае ўсякіх цікавых апавяданняў і ахвотна расказвае іх мне.

— Раскажы што-небудзь, дзеду,—папрасіў я яго аднойчы. І ён расказаў:

— Даўно было гэта. Бачыш: вось якая ў мяне ўжо барада вырасла—за пояс можна заткнуць. А калісьці я, як і ты, быў хлапчуком, і хадзіў у школу. Толькі школа тады была ў суседняй вёсцы—вёрст за шэсць-сем ад нашай. І вучыў нас поп: кудлаты, як жанчына, валасы да самых плячэй звісалі.



Выпраўляючы ў школу, маці заўсёды клала мне ў торбу, у якой я насіў кніжкі, лусту чорнага хлеба, а часам і скварку сала або кавалачак мяса. Вельмі ўжо любіў я гэтыя пачастункі! Але больш за ўсё шанаваў я вараныя языкі: кароўі, авечыя—чые-б сабе не былі.

Аднойчы, памятаю, забілі мы свінню. Назаўтра маці прыгатавала мне ў школу свіны язык. Вось дзе было радасці! Усю дарогу я толькі і думаў аб ім. Па дарозе я нават вызначыў час, калі буду есці яго—на другім перапынку: няхай пазайздросцяць аднакласнікі.

У школе на скамейцы разам са мной сядзеў папоўскі сын Трышка. На першым перапынку ідучы на двор я сказаў яму:

— У мяне ў торбе свіны язык. Глядзі, пільнуй, каб ніхто не ўкраў яго!..

А Трышка гэты, як я пасля даведаўся, быў сам вялікі злодзей. Пакуль я быў на двары, ён выцягнуў з маёй торбы язык і з'еў яго. Калі я вярнуўся, языка ўжо не было. Дарэмна я некалькі разоў вытрасаў торбу, шарыў у скамейцы рукамі,—язык, як кажуць, прапаў без следу.

— Хто з'еў мой язык?— ледзь не плачучы, запытаў я ў вучняў.—Трышка, гэта ты, га?

— Я нічога не ведаю... Я ніякага языка не бачыў,—адказаў той.

Я так засумаваў па языку, што нават не заўважыў, як у клас увайшоў поп. Усе ўсталі і прывіталіся, а я як сядзеў, так і астаўся сядзець: усё думаў пра язык—хто яго мог украсці?

— Драніца Саўка,—голасна выклікаў поп.

Я ўстаў і, нічога не гаворачы, уставіўся вачыма ў папа: язык не выходзіў з маёй галавы.

— Ты што глядзіш на мяне, як баран на новыя вароты? Адказвай урок!—загадаў поп.

Я маўчаў.

— Табе цяляты язык ад'елі, ці што?! Ну?!

«Якія там цяляты, цяляты ў клас не ходзяць»,—падумаў я і кажу:

— Не, у мяне, бацюшка, проста ўкралі язык...

— Што-о?—зазлаваўся поп.—Паўтары, што ты сказаў! Гультай ты гэтакі! Марш да мяне—я табе дам язык!..

— Бацюшка,—узрадаваўся я.—А ён у вас—мой язык?

— Дурань!—закрычаў поп; ён падскочыў да мяне і ўдарыў дубовай лінейкай па руцэ.—На! Вось табе язык!.. Можа яшчэ даць?

— Не, не трэба,—кажу,—мне вашых языкоў. Няхай аддадуць хаця мой...

— Ён страціў розум,—сказаў поп.—Пра які ён язык мне вярзе?—запытаў ён у вучняў.

— У мяне свіны язык укралі... Мамка мне зварыла, а яго ўкралі,—растлумачыў я.

— Чаго ты маўчаў, дурань,—поп узяў мяне за плечы і злосна піхнуў на месца.—Дзеці, хто ўкраў язык? Я з яго скуру спушчу! Я вас чаму вучу?! Красці—вялікі грэх! Ну?—запытаў поп, грозна азіраючы клас.—Хто ўкраў?

Нехта нерашуча сказаў:

— Можа гэта Трышка. Я бачыў: ён нешта выцягнуў з Саўкавай торбы і еў.

— Трышка, ты браў язык?—запытаў поп у сына.

— Я з'еў яго,—адказаў той.

Я сказаў:

— Трышка з'еў мой язык. Ён злодзей. Я дома гэта скажу.

— Пачакай... Гэта не такі ўжо вялікі грэх,—сказаў мякка поп.—Нявaрта, дурань, расказваць... Прыдзі—я табе сала кусок дам.

Пасля я даведаўся, што поп баяўся, каб я не расказаў на вёсцы, што яго сын злодзей. Хто-б тады паверыў-бы яму самаму,—закончыў дзед.

*Іван Шуцько*

*Крупскі раён, БССР.*



Кандыдат біялагічных навук А. Маркавец

# Юным натуралістам



## Шкоднікі садоў

Кожны з вас, гуляючы вясною ці летам у садзе, мабыць, бачыў, як вусені знішчаюць вялікую колькасць лісцяў і кветак. Еўшы яблыкі ці грушы вам таксама ўнутры іх не раз прыходзілася заўважаць вусеняў.

І кожны з вас напэўна думаў: адкуль яны з'явіліся?

... Давайце выберам адзін з ясных зімовых дзён і зробім экскурсію ў сад.

Пры ўваходзе ў сад вы заўважыце на канцах тонкіх галінак пладовых дрэў вісячыя, сухія лісці; яны калышуцца ад ветра і на першы погляд здаецца, што нічога асаблівага тут няма. Павісяць і ападуць. Але гэта не зусім так.

Давайце здымем гэтыя сухія лісці з дрэва, разгорнем, добра прыгледзімся, што знаходзіцца ўнутры іх. Вы заўважыце там многа маленькіх вусеняў баярышніцы ці златагузкі.

Чаму-ж вусені, не гледзячы на вялікі мароз, не гінуць? Тлумачыцца гэта тым, што гняздо вусеняў унутры аплецена павуцінай, якая не прапускае ні вільгаці, ні холаду. Вось таму нават пры самых вялікіх марозах вусень не гіне.

Вусень у гняздзе сядзіць да вясны. Як толькі прыгрэе сонца, ён вылазіць і пачынае знішчаць лісці пладовых дрэў.

Цяпер, рэбяты, прыгледзімся добра да маладых пабегаў пладовых дрэў. Вакол некаторых з іх магчыма ўбачыць кольцы. Калі падлічыць, то ў адным такім кальцы можна налічыць да 300—350 крупінак. Кожная крупінка з'яўляецца яйкам садовага шкодніка, які завецца кальчатым шоўкапрадам. З кожнай такой крупінкі вясной выйдзе вусень.

Калі паглядзім у лупу на месцы складак маладых пабегаў, заўважым на некаторых з іх вялікую колькасць чорных,



ГНЕЗДЫ БАЯРЫШНІЦЫ



ЯЕЧКІ КАЛЬЧАТАГА ШОЎКАПРАДА



ШЧЫТКІ ПАД ЯКІМІ ЖЫВУЦЬ ВУСЕНІ МАЙСКАЙ МОЛІ



АДКЛАДЗЕНЫЯ ЯЕЧКІ МЕДЗЯНІЦЫ

бліскучых, або аранжавых яечак. Чорныя—гэта яечкі тлі, а аранжавыя—яечкі медзяніцы. Абодва гэтыя шкоднікі вясною ў часе стрававання высмактваюць сок з маладых пабегаў і лісцяў. Лісце ад гэтага скручваецца.

Пад шчыткамі на маладых пабегах зімуюць маленькія вусені майскай молі. Пад кожным шчытком змяшчаецца 20—70 вусеняў. Вясною вусені прагрызаюць шчыткі і пачынаюць знішчаць лісце і кветкі пладовых дрэў.

Цяпер разгледзім кару сталоў пладовых дрэў. На некаторых з іх мы заўважым кучкі велічынёю з медны пятак. Гэта яечкі непарнага шоўкапрада. Зверху такія яечкі пакрыты пушыстым валасяным войлакам, які засцерагае яйкі ад марозу. Пад адстаўшай старою карою ці ў трэшчынах старой кары мы можам заўважыць вусеняў пладажоркі, жукоў яблыневага кветкажора.

Вясною вусень пладажоркі ператвараецца ў кукалку, з якой вылятае матыль. Яблыневы кветкажор адкладае ў бутоны кветак яблык ці ігруш па адному яечку ў кожны. Лічынка, якая выйдзе з яйца, знішчае ўнутранае змесціва бутона, і ён ужо ў будучым не дае плада.

Ведаючы, дзе знаходзяцца месцы зімоўкі шкоднікаў, іх можна знішчыць. Трэба знімаць і спальваць усе сухія лісці. Тонкія галінкі з яечкамі кальчатага шоўкапрада таксама збіраюцца і спальваюцца.

Яечкі няпарнага шоўкапрада саскрэбаюць на падкладзеныя падсцілкі, а потым спальваюць.

Для барацьбы з яблыневым кветкажорам, яблыневай пладажоркай праводзіцца ачыстка пладовых дрэў ад старой адстаўшай кары. Знімаюць кару таксама на падсцілку і спальваюць.



# Як людзі навучыліся пісаць

*Рыс. Саматыя і Бервенскага.*



Першабытныя людзі былі непісьменнымі, але яны маглі чытаць мову прыроды.

Першабытны чалавек па следу звера мог сказаць, які звер прайшоў тут. Па змятай траве і зламаных галінках ён мог дагадацца, які звер тут пабываў. Так яму прышла ў галаву думка самому рабіць нейкія знакі, каб потым па іх лягчэй было адшукаць месца, дзе многа ягад ці грыбоў або дзе ён пакінуў забітага звера. Гэтыя меткі-знакі першабытны чалавек рабіў спачатку ў выглядзе следа нагі, зламанай галінкі, а потым—нарэзак на дрэве ці мазкоў на скалах, каменнях і дрэвах.

У гэтых першабытных знаках і ёсць зародак пісьма. Але гісторыя сапраўднага пісьма пачалася з таго часу, калі чалавек пачаў ізабражаць акаляючыя яго прадметы, жывёл і свае думкі рысункамі.

З развіццём чалавецтва і такое пісьмо ўсё менш і менш задавальняла людзей. Трэба было ўмець напісаць загад, дагавор, трэба было перадаць знакамі імя. Людзі пачалі думаць, як гэта зрабіць?

Вялікае вынаходства было зроблена прыкладна шэсць тысяч год назад у Месапатаміі, дзе тады жыў народ шумеры. Яны рысункамі пачалі абазначаць не цэлыя словы, а асобныя склады. Гэта дало ім магчымасць запісваць жывую мову, гэта значыць запісваць любое слова. Так стварылася складовае пісьмо.

Але недастаткова было вынайсці пісьмо. Трэба было адшукаць яшчэ падыходзячы, зручны і даступны матэрыял для пісьма. Розныя законы, пераможныя надпісы і іншае можна было высякаць на камні, медных плітах і драўляных слупах. Гэта былі помнікі, разлічаныя на вякі. Але весці перапіску на каменных і медных плітах было нязручна.

Раскопкі паказваюць, што ў мінулым чалавек карыстаўся для пісьма розным матэрыялам.

Рускі падарожнік Казлоў раскапаў у Сярэдняй Азіі цэлы архіў, напісаны на бяросце. У 1932 годзе ва Узбекістане знойдзена некалькі дзесяткаў палак, якія аказаліся «распіскамі» самаркандскага князя IX века. У старажытным Кітаі і ў Індыі пісалі на шчыту чарапахі, на бамбукавых палках, на разгорнутых сцяблах бамбука. У старажытным Рыме пісалі на ліпавай кары. Эскімосы пісалі на косці. На скуры розных жывёл напісаны некаторыя дакументы старажытнай Русі.

Шумеры пісалі на гліняных дошчачках. Націскам палачкі цяжка было чарціць складаныя малюнкі. Таму паступова выпрацоўваліся больш простыя знакі пісьма. Нарэшце, гэтыя ўмоўныя знакі пачалі складацца з раду рысачак—клінкоў.

Гэтую клінапісь унаследвалі семіты—іудзеі і арабы, якія заваявалі Шумер і заснавалі на яго месцы Вавілонскае царства. У старажытным Егіпце працягвалі пісаць значкамі рысуначнага выгляду. Называлася гэтае пісьмо іерогліфамі. У Кітаі іерагліфічнае пісьмо захавалася і па сёнешні дзень, яно толькі значна спрошчана. Але кітайскі слоўнік і зараз налічвае некалькі дзесяткаў тысяч значкоў—іерогліфаў. Зразумела, што навучыцца добра чытаць і пісаць па-кітайску вельмі цяжка. Недарма выраз «кітайская грамата» стаў азначаць нешта надзвычайна мудронае.



Калі і як было вынайдзена літарнае пісьмо, яшчэ не зусім ясна, але некаторыя звесткі аб гэтым навукай ужо здабыты.

У 1905 годзе на Сінайскім паўвостраве былі знойдзены іерагліфічныя надпісы, але калі іх пачалі чытаць па-егіпецку, то нічога не атрымоўвалася. Аказалася, што семіты прыдалі зусім іншае значэнне егіпецкім іерогліфам. Кожны іерогліф яны лічылі тым гукам, з якога пачыналася назва прадмета, паказанага на рысунку-іерогліфу. Так, галава быка, па-семіцку «алеф», стала азначаць гук «а»; дом, па-семіцку «бет», стаў азначаць «б»; рот, па-семіцку «пе»,—гук «п».



Так склаўся алфавіт з 22 значкоў. Грэкі перанялі гэтае пісьмо ў семітаў. Ад грэчаскага алфавіта паходзіць і лацінскі алфавіт. Старабалгарскі алфавіт быў створан па ўзору грэчаскага. А рускі алфавіт паходзіць ад старабалгарскага.

З развіццём пісьма людзі вынаходзілі і новыя матэрыялы для пісьма. У Егіпце на берагах Ніла густа рос трастнік—папірус. Папірус аказаўся добрым матэрыялам для пісьма. Сцябло папіруса расслойвалі на тонкія паласы і склейвалі. Атрымоўваліся вузкія палосы любой даўжыні, якія можна было нагортваць на палачку. Так узнік першы від кнігі—світак.



Жыхары Малай Азіі выраблялі матэрыял для пісьма з скуры: называўся ён пергамент. Потым людзі навучыліся выраблялць і паперу.

Але толькі за апошнія сто год, калі пачалі выраблялць танную паперу з драўніны і вынайшлі друкарскія машыны, стала магчымым масавае друкаванне. Кнігі і газеты сталі даступны кожнаму, і грамата атрымала ўсеагульнае распаўсюджанне.





# Францышак Багушэвіч

*Вядомы беларускі паэт Ф. Багушэвіч нарадзіўся ў 1840 годзе ў вёсцы Жупраны, Вілейскай вобласці. Змалку яму давялося ўбачыць гаротнае жыццё беларускага сялянства, прыгнечанага панамі і царскімі чыноўнікамі. Ён узненавідзеў прыгнятальнікаў, палюбіў просты народ і потым, стаўшы паэтам, апяваў яго цяжкую долю ў сваіх вершах і паэмах.*

*Багушэвіч хацеў, каб працоўнаму чалавеку жылося лепш, каб ён мог гаварыць на сваёй роднай мове, быў вольным і шчаслівым. У сваім жыцці паэт імкнуўся патрапіць на кроплю „такой вадзіцы, ды з такой крыніцы, што, як хто нап'ецца, дык вольным стаецца". Аднак прычакаць Багушэвічу лепшых дзён для беларускага народа так і не ўдалося: у 1910 годзе паэт памёр.*

# КАЛЫХАНКА

Рыс. М. Свяцкага.



Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі;
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваёй маткі.
А ты чаго не спіш, сынку,
Як-бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам,
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыдзе ў госці,
Ой, то будзе ёй радосці!..
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ёй паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякенькім падсітным,
Піражочкам і з начынкай,
Верашчачкай, гарачынкай...
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі!..
От, то будзе рада матка,
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі!..

Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
Людцаў можа будзеш біці,
Цяжка будзе ў свеце жыці;
Будуць клясці, як ліхога,
Прасіць смертанькі ад бога.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі!
Тады матка прыдзе ў госці;
Сын выкіне стары косці;
Жабруючы, пойдзе ў вёску,
Будзе прасіць матку боску,
Каб забыцца ёй аб сыне,
Каб не ведаць, дзе ён згіне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі!
Ой, не будзь ты лепей панам,
Ні вялікім капітанам,
Будзь чым матанька радзіла,
Каб у госці не хадзіла,
Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваёй маткі...



## Для умелых рук

# Палічка для кніг

У кожнага знойдуцца дома такія інструменты, як малаток, піла, адвёртка і клешчы. Патрэбны яшчэ рубанак, пара стамесак, і можна прыступіць да работы.

З фанеры выразаецца задняя сценка полкі (размеры паказаны на чарцяжы № 1). Затым трэба ўзяць тры адрэзкі дошкі. З іх зрабіць бакавыя сценкі і дно полкі (чарцяжы №№ 2 і 3).

Усе тры адрэзкі гладка выстругайце. Калі бакавыя сценкі і дно будуць выструганы, зрабіце ў бакавых сценках вырэзы, каб можна было ўставіць дно полкі. Пасля гэтага закругліце вуглы ў бакоў (чарцёж № 2).

Вырэзы зрабіць няцяжка. Пілой трэба прапіліць да паловы таўшчыні бакавыя сценкі, потым асцярожна выкалаць вырэзы ў бакоў і ўставіць дно полкі, пастукваючы асцярожна малатком. Затым трэба прыбіць заднюю фанерную сценку да бакавых сценак і дна, папярэдне змазаўшы яе для моцнасці клеем. Дзве гадзіны клей павінен сохнуць. Цяпер, калі жадаеце, можаце пафарбаваць полку. Прывярніце да полкі ззаду вушкі, каб можна было яе вешаць, і полка гатова (чарцёж № 4).



№ 1



№ 2



№ 3


№ 4

# Пасля экзаменаў



— Мама! Я сёння па геаграфіі атрымаў 4.

— Малайчына! А як-жа гэта атрымалася?

— А вельмі проста: спачатку наш настаўнік Павел Ільіч экзаменаваў—двойку паставіў. Потым дырэктар стаў экзаменаваць—і таксама двойку паставіў...

**Склаў Нікіфар Кубароў, Брагінскі раён, Савіцкая школа**



# Дзед-Усёвед

У рэдакцыі было ціха. Мы сядзелі і спакойна працавалі. Раптам чуем за дзвярыма шум. Шырока расчыніліся дзверы і ў рэдакцыю ўваліліся Дзед-Усёвед і знаёмы ўжо нам Сямён. Яны паміж сабою спрачаліся. Дзед-Усёвед даказваў, што ён можа любы фокус зрабіць з запалкамі, а Сямён не верыў яму.

— Я ўжо на што майстар на ўсе рукі,—гаварыў Сямён,—і то ведаю толькі адзін фокус, як сярнічку запальваць аб скрыначку.

Дзед усміхнуўся ў сівую бараду і высыпаў запалкі на рэдакцыйны стол.

— Глядзіце, — сказаў Дзед-Усёвед, і ён тут-жа прарабіў шмат цікавых фокусаў з запалкамі.

Гэтыя фокусы Дзед-Усёвед пакінуў у рэдакцыі і прасіў надрукаваць іх у журнале, каб нашы чытачы іх прарабілі самі і прыслалі ў рэдакцыю адказы на іх.

Вось некаторыя з гэтых фокусаў:



Рыс. 1.

1. Домік, які паказан на рыс. 1, трэба павярнуць да нас другім бокам, перасунуўшы толькі дзве запалкі?



Рыс. 2.

2. Як перакласці чатыры запалкі так, каб з ключа, які паказан на рыс. 2, атрымалася тры квадраты?

3. Як перакласці тры запалкі так, каб з лямпы, паказанай на рыс. 3, атрымалася пяць роўных трохвугольнікаў?



Рыс. 3.



Рыс. 4.

4. Як перакласці чатыры запалкі так, каб з фігуры, паказанай на рыс. 4, утварылася тры квадраты?



Адказны рэдактар Ф. Т. КАНСТАНЦІНАЎ Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ. Тэл. 2-38-54.

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 4074. $2^1/_2$ друк. арк. УК5741.

Цана 30 кап.

# Гэта ён—зноў Сямён 8514

Рыс. М. Карпенко



Спіць салодкім сном Сямён
Бачыць гэтакі ён сон



Ён вядомы стаў пілот,
Ведае яго народ.



— Ты, сынок, схадзі па газу.
— Так табе й пайду адразу!



— Дзе-ж дзяваўся твой падручнік?
— Ён для лётчыка нязручны.



Ты на карце пакажы—
Полюс поўдня дзе ляжыць.



На такой машыне брат,
Ні наперад, ні назад.